

# НавіНЫ БНФ

нумар 14 (92)
8 ліпеня 2006





# Нацыянальныя сьцягі на сярэднявечным фэсьце

Рэжым яшчэ раз паказаў, што на дух не пераносіць усё беларускае. Гістарычны бел-чырвона-белы сьцяг, як і сама гісторыя, насамрэч яму чужыя. На штогадовым навагрудзкім фэсьце сярэднявечнае культуры й музыкі гэтаксама не стае месца беларушчыне. Бальшыня рыцарскіх клюбаў-удзельнікаў ня мае ніякага дачыненьня да рэканструкцыі беларускага сярэднявечча. На канцэрт, рыцарскія двубоі, штурм замка, бугурт не знайшлося беларускамоўнага вядоўцы, і вялікі Міндоўг міжволі пераўтварыўся ў «літовского князя Міндавгаса».

Партыя БНФ прыняла ўдзел у Фэсьце й узьняла дзясяткі нацыянальных сьцягоў. Акцыя засьведчыла, што беларусы насамрэч неабыякавыя да гісторыі й нацыянальных сымбаляў. Сьцягі, узьнятыя сярод натоўпу, былі сустрэтыя авацыяй як з боку гледачоў, так і з боку рыцараў – удзельнікаў турніру. *Чытайце на старонцы 3*

**Ліпень.** Прамінула больш як тры месяцы ад сакавіцкіх падзей. Што робім, чаго чакаем? - задаюць слушнае пытаньне фронтаўцы й дэмакратычныя актывісты па ўсёй краіне. Я чуў гэтае пытаньне на ўсіх без вынятку сустрэчах з рэгіянальным актывам нашай выбарчай кампаніі, якія райшлі ў абласных цэнтрах. Прычым яго задавалі людзі, якія належаць да розных партыяў, альбо й не належаць да ніякай, але якія цягам апошняга году прайшлі выдатную школу супольнае барацьбы.

Фронт ухваліў і прапанаваў кааліцыі стратэгію, разьлічаную на бліжэйшыя два гады. Сутнасьць яе – антыкрызысная. Лукашэнка падвёў краіну да провы, за якой – эканамічны правал і страта незалежнасьці. Што робіць улада для прадухіленьня гэтага (ясна, што нічога; хутчэй наадварот), а што прапануем мы?

Лукашэнка праз адзін-два гады можа страціць незалежнасьць... ня ўпэўнена; continue:

няў пра выканаўчую структуру кааліцыі – так бы мовіць, новае аблічча штабу. Але ж бяз штабу ці выканаўчага камітэту арганізаваць працу немагчыма.

Маем выпрабаваньне: як зьберагчы рэальную кааліцыю, але пры гэтым эфэктыўна працаваць?

Але гэтае выпрабаваньне – праява больш шырокага й небясьпечнага выкліку. Расея пасьлядоўна выкарыстоўвае слабасьць і эканамічную залежнасьць ад сябе нашае краіны для зьнішчэньня нашае палітычнае незалежнасьці.

Відавочна, расейскія тэхнолягі пасьля паразы ва Ўкраіне становяцца больш прафэсійнымі. Моцным ходам зь іхнага боку быў бы намёк некаторым лідэрам у Беларусі: маўляў, Мілінкевіч занадта празаходні, мы яго ніколі не падтрымаем, а вось наконт іншых альтэрнатываў Лукашэн*формации, вполне могут поверить националисту Лукашенко".*

Вымагае тлумачэньня зьмена паводзінаў С.Калякіна, які пасьля вяртаньня з сацынтэрнаўскай канфэрэнцыі ў Маскве адмовіўся ад прапановы А.Мілінке-



# ДВА ВЫПРАБАВАНЬНІ

## Як зьберагчы рэальную кааліцыю, але пры гэтым эфэктыўна працаваць?

Адказ на ключавое пытаньне сёньняшніх дзён і мусіць голасна прагучаць для ўсіх беларусаў. Тым, хто галасаваў за Мілінкевіча ў сакавіку, мы кажам проста: цяпер ідзе барацьба " За Свабоду й Незалежнасьць". Тым, хто вагаецца, тлумачым, як ідуць альбо неўзабаве пойдуць эканамічныя справы на іхным заводзе й у іхным паселішчы й чаму ім давядзецца абараняць свой інтарэс актыўна. Выяўляем мясцовых лідэраў. Рыхтуемся да новай агульнанацыянальнай акцыі з патрабаваньнем свабодных датэрміновых выбараў. Пачынаць супольную працу ў гэтым рэчышчы можна было хоць у траўні.

Але некаторыя нашыя партнэры па кааліцыі выпрабоўваюць яе на трываласьць. Прапановы Фронту на паседжаньнях Палітычнае рады раз за разам адхіляліся, зь іх выкрэсьлівалася канкрэтыка, і асабліва пасьлядоўна тармазілася прыняцьцё рашэньку можам паразважаць (хаця папраўдзе Лукашэнку яны здаваць ня будуць, а будуць аслабляць, каб быў больш пакорлівы).

Думаю, гэтым тлумачыцца фэномэн А.Казуліна (ягоны намесьнік Ляўковіч шчыра напісаў кагадзе пра Казуліна: *"«Зарядив» номенклатурную фигуру, ...мы сделали стратегический посыл «вертикали», номенклатурной буржуазии, а также Москве"*).

Адсюль карані артыкула і аднаго зь лідэраў АГП Яраслава Раманчука (супольна з старшынём СПС Нікітам Бялых) у «Коммерсанте»: *"Сейчас Александр Лукашенко готовится к PR-кампании по раскрутке нового врага – России. Именно ее объявят виновной в социальных и экономических проблемах, с которыми неизбежно столкнется социалистическая допотопная экономика Белоруссии. Миллионы простых белорусов, не имеющих доступа к объективной ин-*віча ўзначаліць выканаўчую структуру Палітычнае рады Аб'яднаных дэмакратычных сілаў. Урэшце прагаласаваўшы за Стратэгію Аб'яднаных дэмакратычных сілаў на бліжэйшыя гады, С.Калякін на пленуме ЦК ПКБ ацаніў гэтую стратэгію й палітычную кампанію "За свабоду" як *"не убедительные с точки зрения их наполнения конкретными политическими акциями, позволяющими достигать конкретных рубежей в конкретное время"*. Але ж менавіта лідэр ПКБ прапанаваў выключыць з тэксту Стратэгіі нямала канкрэтных пунктаў, расьпісаных храналягічна. А ў той самы час на восень заплянаваў стварэньне "левай кааліцыі".

Калі гэта тактыка, скіраваная на тое, каб ухіліцца ад выразна незалежніцкай пазыцыі, паказаць "бездапаможнасьць" Палітычнае рады, заявіць пра канец легітымнасьці рашэньняў Кангрэсу дэмакратычных сілаў 2005 году, адмовіць А.Мілінкевічу ў лідэрстве й заняцца палітычным самазахаваньнем, то яна вядзе ў нікуды. Думаю, яе не пахваляць найперш мясцовыя актывісты розных палітычных сілаў, што ўваходзяць у кааліцыю.

Мы, фронтаўцы, ня будзем чакаць, пакуль у справе абароны Свабоды й Незалежнасьці да нас далучацца ўсе. Далучацца тыя, каму баліць. Мы ж пачынаем. Рыхтуецца антыкрызысная плятформа. У верасьні павінны адбыцца першыя масавыя сустрэчы ў рэгіёнах. Адначасова мы ўдакладняем, праясьняем асноўнае пасланьне для тых актыўных людзей, якія складаюць да трэці нашага грамадзтва. Фронт запачаткоўвае агульнанацыянальную кампанію «За Свабоду й Незалежнасьць». Пабачым, хто будзе разам з намі. Наступае момант выбару.

**Вінцук ВЯЧОРКА**

акцыя

# Бел-чырвона-белы Наваградак

Сябры Партыі БНФ, моладзі БНФ і моладзевай ініцыятывы "Правы Альянс" зладзілі масавую акцыю падчас рыцарскага фэсту ў Наваградку.

Ад самай раніцы ўдзельнікі раздавалі мінакам значкі "За свабоду", "Далучайся", "Быкаў за свабоду". Людзі з задавальненьнем іх бралі і чаплялі на сябе. Аднак празь некаторы час міліцыя пачала затрымліваць людзей са значкамі й патрабавала іх зьняць і здаць.

Падобная сытуцыя з дрэўкамі для сьцягоў. Міліцыя затрымлівала й перапісвала імёны асобаў, якія хадзілі па горадзе з дрэўкамі, праводзіла агляд асабістых рэчаў, канфіскоўвала нацыянальныя сьцягі й вуды да іх. Паводле словаў арганізатара акцыі, намесьніка старшыні Партыі БНФ Віктара Івашкевіча, да акцыі было падрыхтавана 80 сьцягоў, але ўжо да пачатку акцыі палову зь іх канфіскавалі. Прычым міліцыя дзейнічала вельмі недалікатна, сярод затрыманых часам апыналіся й рыцары – удзельнікі Фэсту.

Да акцыі далучыліся й мясцовыя жыхары: прыкладна ў 16:00 некалькі бел-чырвона-белых сьцягоў былі ўзьнятыя з вокнаў і дахаў будынкаў у цэнтры горада.

У кульмінацыі фэстывалю, падчас імітацыі штурму замкавай гары, адбылася найвялікшая частка фронтаўскай акцыі. Моладзь узьняла каля 20 сьцягоў у розных месцах шматтысячнага глядацкага натоўпу. Гэта момант аўдыторыя сустрэла авацыяй і масавым скандаваньнем "Жыве Беларусь!" Міліцыя дзейнічала вельмі жорстка й на працягу 10 хвілінаў з ужываньнем сілы й пагрозаў затрымала ўдзельнікаў акцыі. Сярод затрыманых апынуліся сябры моладзі БНФ і "Правага Альянсу".

Задачамі акцыі было нагадаць грамадзкасьці пра нацыянальныя сымбалі, іх неад'емнасьць у беларускай культуры й гісторыі, таксама прыцягнуць людзей да актыўнай грамадзянскай пазыцыі. Віктар Івашкевіч акрамя гэтага бачыць і іншыя станоўчыя вынікі зробленага: *"Гэта быў масавы трэнінг для сьвежай моладзі, якая зусім нядаўна далучылася да дзейнасьці. Мы пабачылі настроі ў грамадзтве: яны вельмі пазытыўныя: людзі настроеныя на змаганьне. На жаль, акцыя яшчэ раз паказала, што ўлада на дух не пераносіць усё беларускае. На фоне яе стаўленьня да нашых нацыянальных сымбаляў вельмі дзіўнымі выглядаюць заклікі забыць мінуўшчыну й бараніць незалежнасьць разам. Якая можа быць супольная барацьба, калі ўлада так абыходзіцца з нашай моладзьдзю?"*

Гэта ўжо ня першая акцыя падобнага кшталту. 15 траўня, з нагоды гадавіны рэфэрэндуму пра адмену сымболікі моладзь БНФ уздымала ў неба дзясяткі бел-чырвона-белых сьцягоў на геліяваных балёніках, а таксама ўвесь транспарт паўз праспэкт Скарыны ўпрыгожвала бел-чырвона-белымі стужкамі. 16 траўня нацыянальны сьцяг быў узьняты над будынкам «Белэкспа» па праспэкце Машэрава. 18 чэрвеня фронтаўцы прынялі ўдзел і ўзьнялі сьцягі на імпрэзе ў Віцебску з нагоды гадавіны нараджэньня Быкава. Падобныя акцыі ў рэгіёнах амаль штотыднёва ладзіць моладзь.



# ПРАБЛЕМЫ Й аб'яднаных

**Раскол кааліцыі будзе прызнаньнем паразы дэмакратычнай справы й здрадай тым людзям, якія выходзілі на плошчу 19-25 сакавіка, сядзелі за кратамі, апынуліся пад крымінальным перасьледам.**

## Вэктары аналізу пасьлявыбарчай сытуацыі

Заканчэньне палітычнай кампаніі па выбарах прэзыдэнта стала нагодай для аналізу вынікаў працы Аб'яднаных дэмакратычных сілаў. Першыя высновы, абагульненьні, задаволеныя заявы й гнеўныя абвінавачаньні – вось чым адзначанае заканчэньне кампаніі. Дзякуй богу, гэтым разам амаль абышлося без марных спробаў нажыць капітал на абвінавачаньнях асобных удзельнікаў кампаніі ў раскраданьні фінансавых сродкаў – у адрозьненьне ад пасьлявыбарчых дыскусіяў 2001 года, цяпер спрэчкі вядуцца ў канструктыўным рэчышчы й збольшага трымаюцца ў межах стваральнай дыскусіі.

Працэсы аналізу зробленага й плянаваньня працы наперад разгортваюцца на некалькіх пляцоўках. Асноўны аналіз унутры дэмакратычнай супольнасьці робіцца, па першае, з боку структураў палітычнай апазыцыі: суб'ектамі абгаворваньня выступаюць тут палітычная рада кааліцыі й штаб адзінага кандыдата, сам адзіны кандыдат Мілінкевіч, іншыя апазыцыйныя палітычныя й партыйныя дзеячы, палітычныя партыі. Тут пераважаюць палітычныя й нават пэрсанальныя ацэнкі, разглядаюцца таксама й пытаньні эфэктыўнасьці працы асобных мэханізмаў, даецца ацэнка кампаніі дэмакратычнага кандыдата й фармулюецца стратэгія на будучыню. Прынцыповым пунктам гэтых дыскусіяў стала пытаньне пра незваротнасьць рашэньняў кангрэсу дэмакратычных сілаў, што адбыўся ўвосень 2005 году, і адпаведна пра далейшы статус адзінага кандыдата Аляксандра Мілінкевіча па выбарах. Побач з пазытыўнай ацэнкай зробленай працы й дасягненьняў кааліцыі, відавочна акрэсьленая пазыцыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі, што скіраваная на скліканьне новага Кангрэсу дэмакратычных сілаў, пошук паразуменьня са структурамі вакол кандыдата Казуліна з адпаведным пераглядам рашэньняў папярэдняга кангрэсу. Адзначым, што пазыцыі большасьці з гэтых суб'ектаў аналізу ў прынцыпе адпаведныя іх пазыцыям падчас самой кампаніі – нейкія новыя высновы альбо прызнаньне ўласных пралікаў ёсьць рэдкасьцю.

Па-другое, аналіз і крытыка ўнутранага характару адбываецца з боку няўрадавых арганізацыяў і цэнтраў плянаваньня грамадзянскіх кампаніяў, што разгортваліся падчас выбараў. Гэтыя структуры не былі ўбудаваныя ў мэханізм палітычнай кааліцыі, хоць іхні ўплыў і ўлічваўся ў плянаваньні палітычных дзеяньняў. Дадзенае кола суб'ектаў надзвычай разнастайнае, але агульныя рысы ў падыходах відавочна прысутнічаюць. Адзначаецца пазытыўны мабілізацыйны эфэкт наяўнасьці адзінага дэмакратычнага кандыдата, аднак выказваецца шкадаваньне позьнім вызначэньнем кандыдата й маруднай працай ягонага штабу ў пэрыяд паміж Кангрэсам дэмакратычных сілаў і афіцыйным пачаткам выбарчай кампаніі. Большасьць грамадзкіх структураў згодная, што вулічныя пасьлявыбарчыя пратэсты ("Плошча") насуперак рыторыцы палітыкаў былі непадрыхтаваныя, адсутнічаў суб'ект, які б узяў на сабе адказнасьць за гэты працэс. Усхваленьне "самаарганізацыі" пратэстаў дамінуе ў дыскусіях, хоць часам дэманструецца адносны скепсіс наконт устойлівасьці "самаарганізаваных" сетак і структураў, наконт колькасьці прыцягнутых новых людзей – аднак большасьць пагаджаецца, што гэты фактар стане новым штуршком для развіцьця беларускага супраціву ў наступны пэрыяд, і гэты рэсурс ня варта разглядаць як просты новы "прызыў-2006" у шэрагі партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў. Новыя грамадзянскія сілы маюць больш энэргетыкі, чым традыцыйныя партыі й няўрадавыя арганізацыі, дэманструюць большую гнуткасьць і разнастайнасьць у стратэгіі й тактыцы. Задача традыцыйных няўрадавых арганізацыяў – забясьпечыць устойлівасьць гэтых новых сетак і структураў, а таксама наладзіць сувязь паміж імі й іншымі суб'ектамі дэмакратычнага працэсу, але пры гэтым трэба пазьбегнуць спакусы пераўтварэньня гэтых новых цэнтраў супраціву ў традыцыйныя няўрадавыя арганізацыі, у элемэнты звыклага грамадзянскага сэктару. Трэба дапамагаць новай грамадзянскай плыні, узгадняць зь ёй агульныя мэты й забясьпечваць тэхнічнай падтрымкай, а не імкнуцца кіраваць ёю.

Па-трэцяе, прафэсійна аналізам і крытыкай займаюцца тыя, хто пазыцыянуецца як незалежны аналітык і экспэрт па палітычных пытаньнях – гэта так званая экспэртная супольнасьць, меркаваньні якой прынята слухаць, але рабіць дакладна наадварот. Тут мы бачым надзвычай стракаты набор ацэнак і прапановаў, якія збольшага далёкія ад рэальных магчымасьцяў кааліцыі. Аднак спроба скіраваньня гэтага аналітычнага рэсурсу ў стваральнае рэчышча ажыцьцяўляецца камандай былога адзінага кандыдата. Так, 2 чэрвеня адбылася сустрэча Аляксандра Мілінкевіча з аналітыкамі, палітолягамі, прадстаўнікамі незалежных сацыялягічных інстытутаў. Былі абмеркаваныя вынікі мінулай палітычнай кампаніі й пляны Аб'яднаных дэмакратычных сілаў на бліжэйшую пэрспэктыву. Аляксандар Мілінкевіч у канцы сустрэчы прапанаваў утварыць Савет экспэртаў у рамках кампаніі "За свабоду". Дэмакратычны лідэр заклікаў дасылаць яму стратэгічныя пляны й прапановы да тактыкі дзеяньняў дэмакратаў на наступны пэрыяд. Такую ініцыятыву можна было б толькі вітаць, калі б яна не была досыць трывожным сьведчаньнем крызісу плянаваньня ў палітычнай каліцыі ў пасьлявыбарчы пэрыяд. Калі лідэр кааліцыі зьвяртаецца з прапановай даць яму праграму далейшых дзеяньняў – гэта ёсьць бездапаможным крыкам пра адсутнасьць пляну. Застаецца спадзявацца, што экспэрты здолеюць пераадоліць рознасьць падыходаў да праблемаў палітычнай апазыцыі, а кааліцыя будзе здольная прыслухацца да іх меркаваньня, і супрацоўніцтва з новым экспэртным органам дасьць кааліцыі нейкія карысныя напрацоўкі. Але чакаць пакуль гэта адбудзецца ўжо фактычна няма часу.

## Выклікі, што стаяць перад кааліцыяй

Усе гэтыя накірункі аналізу заўважаюць на новую палітычную сытуацыю й на новы рэсурс дэмакратычных сілаў – тых людзей, што бралі ўдзел у пасьлявыбарчых пратэстах на плошчы. У гэтых дыскусіях праглядаюцца таксама асноўныя небясьпекі, што стаяць перад дэмакратычнай кааліцыяй.

Навідавоку тыя пагрозы, якія зыходзяць ад дзеючай улады й праяўляюцца ў яе рэпрэсіўных захадах супраць палітычнай апазыцыі. Рэпрэсіі – магчыма самая відавочная пагроза для кааліцыі апазыцыйных палітычных партыяў. Ціск на актывістаў скіраваны на адштурхоўваньне ад палітычнай дзейнасьці актыўных асобаў – пакараньнем за непаслушэнства з'яўляюцца

# ПЭРСПЭКТЫВЫ дэмакратычных сілаў

*Юры Чавусаў, палітоляг*



звальненьні з працы й адлічэньні з вучобы, а таксама пагрозы гэткіх захадаў. Ня меншае значэньне маюць пагрозы для структураваных арганізацыяў – ліквідацыя партыяў можа быць працягнутая ў любы момант. Перад Партыяй БНФ стаіць цяпер задача зьмяненьня статуту й рэгістрацыі абласных арганізацыяў – у адваротным выпадку пагроза ліквідацыі партыі ўжо напрыканцы гэтага году можа быць увасобленая ў рэчаіснасьць.

Акрамя зьнешніх пагрозаў, да якіх мы ўжо прызвычаіліся й гатовыя працаваць у гэтых умовах, паўстае шэраг выклікаў унутранага й стратэгічнага характару. Гэта пытаньні ўстойлівасьці кааліцыі й яе стратэгіі на бліжэйшы пэрыяд.

Захаваньне самой кааліцыі й пытаньні пра рэвізію рашэньняў кангрэсу зьяўляюцца цяпер актуальнымі. Крытычныя выказваньні, што гучалі на травеньскім зьездзе АГП, пазначаюць відавочную незадаволенасьць гэтага складніку кааліцыі тым, як развівалася праца па выбарах. Рэвізія рашэньняў кангрэсу дэмакратычных сілаў, у тым ліку зьмена лідэра, магчымая, але яна павінная быць абгрунтаваная. Падставай для гэтага можа быць беспэрспэктыўнасьць працягу працы ў ранейшым фармаце з арыентацыяй на чаканьне нейкага сацыяльна-эканамічнага крызысу. Тэза зьмены лідэра кааліцыі толькі з-за таго, што старшыня АГП сам не адмовіўся ад лідэрскіх амбіцыяў – неканструктыўная. Аб'яднаньне з казулінцамі магчымае – аднак паўстае пытаньне, чаму такое аб'яднаньне не адбылося да выбараў? Відавочна, што аб'яднаньне зь імі зараз можа мець значэньне толькі тады, калі яно адбудзецца на глебе агульнай стратэгіі – гаворка можа весьціся толькі пра далучэньне групы Казуліна да Аб'яднаных дэмакратычных сілаў, а ніяк не пра перафарматаваньне кааліцыі "пад зьняволенага лідэра". Аб'яднаньне дзеля аб'яднаньня (а тым больш толькі як нагода для перагляду статуса Мілінкевіча) ёсьць немэтазгодным і шкодным. Рэйтынг вядомасьці Мілінкевіча, здабыты самаахвярнай працай тысячаў людзей, коштам тысячаў арыштаў і дзесяткаў крымінальных справаў – гэта занадта каштоўны здабытак, каб адмовіцца ад яго дзеля задавальненьня чыіхсьці лідэрскіх амбіцыяў.

Іншая справа, што без працягу рэальнай працы з выразна бачнай мэтай і стратэгіяй яе дасягненьня гэты рэйтынг можа хутка зьнікнуць – калі стратэгія апынецца неэфэктыўнай, то ўжо ўвосень факт лідэрства Мілінкевіча ўжо будзе небясспрэчным. Таму на дадзеным этапе глебай для выпрацоўкі рашэньняў павінны быць дэ факта лідэрскі статус Мілінкевіча ў кааліцыі з адначасовым выкананьнем пляну канкрэтных дзеяньняў. Аб'яднаць нас можа толькі рэальная праца, а не пустыя лёзунгі пра непарушнасьць кааліцыі. Партыі мусяць пасунуць уласныя інтарэсы перад задачай працягу супольнай працы й вызначыць канкрэтныя задачы. Такія задачы вызначаныя ў стратэгіі, ужо зацьверджанай палітычнай радай Аб'яднаных дэмакратычных сілаў, але тактычная праграма па вырашэньні гэтых задачаў выклікае справядлівыя нараканьні з боку актывістаў.

Менавіта плян дзеяньняў можа стаць нагодай для разыходжаньня суб'ектаў кааліцыі. У выпадку такога разыходжаньня дэмакратычныя сілы апынуцца адкінутымі далёка назад – мы апынемся нават не на стадыі перад мінулым кангрэсам дэмакратычных сілаў, а на стадыі да фармаваньня народнай кааліцыі "Пяцёрка плюс". Гэта будзе прызнаньнем паразы дэмакратычнай справы й здрадай тым людзям, якія выходзілі на плошчу 19-25 сакавіка, сядзелі за кратамі, апынуліся пад крымінальным перасьледам.

Іншае прынцыповае пытаньне, якое зьвязанае з плянам дзеяньняў, – гэта пытаньне пра новы рэсурс апазыцыі, тых тысячаў новых людзей, што далучыліся да грамадзкай актыўнасьці ў часе вулічных пратэстаў. Ня трэба перабольшваць памеры гэтага рэсурсу, але яго трэба абавязкова ўлічваць. Пабудаваная падчас выбараў вэртыкаль нацыянальнага й рэгіянальных штабоў была сцэмэнтаваная агульнымі задачамі збору подпісаў і правядзеньня агітацыйнай кампаніі. Гэтая структура на дадзены момант ня мае перад сабой мэты, якая б аб'яднала яе ў эфэктыўны мэханізм. У сваю чаргу, у адрозьненьне ад палітыкаў, грамадзкія цэнтры плянаваньня згодныя прынць існаваньне новых плыняў грамадзянскага супраціву й разглядаць новыя сілы самаарганізацыі як самастойны фэномэн. Альтэрнатыўная канцэпцыя руху прасоўваецца з боку грамадзкіх структураў, сутыкаючыся пры гэтым з супрацівам партыйных лідэраў. Згодна з прапанаванай канцэпцыяй, палітычныя й грамадзкія сэгмэнты й структуры павінны быць раўназначныя паводле працоўнага статусу, пры гэтым адзіны лідэр павінен граць выключна ролю сымбалю, ганаровага манарха, які каралюе (асьвячае сваім ужо адносна высокім рэйтынгам дэмакратычную дзейнасьць), але ня правіць, а асновай усёй дзейнасьці павінна стаць вызначэньне палітычным органам кааліцыі мэтаў дэмакратычнай супольнасьці. У такой схеме кіраваньне атрадамі "грамадзкіх партызанаў" не ажыцьцяўляецца – яны дзейнічаюць аўтаномна, згодна з публічна абвешчанай стратэгічнаю мэтаю. Павінна быць ня толькі вэртыкальная адміністрацыйная дзейнасьць, як было падчас кампаніі, але таксама й сеткавая дзейнасьць грамадзкіх цэнтраў пры захаваньні вэртыкалі, плюс маштабныя дзеяньні "дэмакратычных партызанаў".

Парасткі такога супраціву ўжо назіраюцца ў Менску, але вельмі важнае стратэгічнае прыняцьцё гэтай мадэлі палітычнымі сіламі. У іншым выпадку перарастаньне Мілінкевіча ў функцыянэра кааліцыі пры адсутнасьці выбарчай кампаніі разбурыць хісткі кампраміс паміж дэмакратычнымі партыямі й прывядзе да развалу кааліцыі. Фактычна, ва ўмовах выжадальнай пазыцыі палітычнай кааліцыі й барацьбы ўнутры яе, другая канцэпцыя пачала рэалізоўвацца без удзелу палітыкаў, бо пакліканая яна была менавіта самім жыцьцём.

## Не аддаваць ініцыятывы!

Сёньня Аб'яднаныя дэмакратычныя сілы мусяць хутка й адэкватна даць адказ на выклік, які кінуты ім гісторыяй. Альбо яны робяцца авангардам лепшай часткі актыўнага грамадзтва й у вызначаны тэрмін мяняюць рэжым, альбо яны маргіналізуюцца й не пасьпяваюць за праявамі грамадзкай незадаволенасьці лукашэнкаўскім праўленьнем. Чаканьньне таго, калі сытуацыя сама па сабе створыць передумовы для рэвалюцыі – гэта перадача ініцыятывы ў рукі дыктатуры. У такім выпадку ўлада ў краіне будзе падхопленая іншымі, больш дынамічнымі суб'ектамі.

Лукашэнка цяпер займае абарончую пазыцыю. Ці не ўпершыню дэмакратычная кааліцыя прымусіла Лукашэнку рэагаваць на падзеі, а ня весьці ўласную гульню. Палітычную сытуацыю зараз стварае дзейнасьць саміх дэмакратычных сілаў – прэзыдэнт вымушаны рэагаваць на новую палітычную сытуацыю. Дэмакратычная кааліцыя тут ня мае права губляць ініцыятыву, яна павінна ісьці ў далейшы наступ, пашыраючы стваральную працу.

# адным абзацам

## Круглы стол па энэргетычнай бясьпецы

27 чэрвеня адбыўся круглы стол на тэму "Энэргетычная бясьпека краін Міжмор'я", які зладзілі супольна Інстытут Дзяржаўнасьці й Дэмакратыі і Партыя БНФ. З асноўным дакладам выступіў экспэрт па пытаньнях энэргетыкі Партыі БНФ, аўтар славутай канцэпцыі БНФ аб стварэньні балта-чарнаморскага нафтавага калектару ў пачатку 1990-х Станіслаў Гусак. Намесьнік старшыні міжнароднай камісіі Партыі БНФ Алесь Стральцоў прэзэнтаваў даклад "Энергетычная палітыка краін Эўразьвязу", а кандыдат эканамічных навук Валер Дашкевіч – даклад "Энэргетычная залежнасьць Беларусі ад Расеі й шляхі яе пераадоленьня". Прафэсар і член-карэспандэнт Акадэміі Навук Беларусі Іван Нікітчанка расказаў пра экалягічныя аспэкты энэргабясьпекі.

Пасьля перапынку на абед Ірына Тычыцкая, намесьнік дырэктара дасьледчага цэнтру Інстытуту прыватызацыі і мэнэджмэнту, агучыла свой даклад "Эканамічныя наступствы падвышэньня цэнаў на газ для Беларусі". Завяршылася канфэрэнцыя выступам эканамічнага аглядальніка "Радыё Свабода" М. Залескага.

"*Робіць уражаньне канкрэтыка, зь якой выступалі прамоўцы,* - кажа старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка, - *канкрэтыка страчаных шанцаў, якія мы мелі на працягу першага дзесяцігодзьдзя незалежнасьці. Асабліва гэта было зразумела з выступу Станіслава Гусака. Робяць уражаньне таксама канкрэтныя лічбы з дакладу Валера Дашкевіча – 30% прадпрыемстваў, што маюць рэнтабэльнасьць ад 0 да 5 %, будуць пер-*



*шымі ахвярамі падвышэньня коштаў на энэргарэсурсы. Зараз мы знаходзімся ў такім стане, што эканоміка Беларусі ў тупіку. Але ж мы ня горш за суседнія дзяржавы. Чаму ўваход у эўрапэйскую рынкавую кан'юнктуру ставіць на калені Беларусь? Нам належыць сфармуляваць стратэгію перадухіленьня эканамічнага крызысу. Гэтага ня ў стане зрабіць Аляксандр Лукашэнка, які сам зараз трапіў у пастку "Газпраму".*

Адзін з арганізатараў круглага стала Алесь Стральцоў кажа: "*Ідэя круглага стала паўстала ў сувязі з падзеямі, якія адбываюцца ў Цэнтральнай Эўропе ў апошні час, а менавіта кан'юнктура цэнаў на газ. Не сакрэт, што гэтае пытаньне мае вялікае значэньне й для Беларусі. У Эўропе гэтая тэма таксама шырока дыскутуецца, праводзяцца форумы ў структурах Эўразьвязу й у асобных краінах. Мы запрасілі беларускіх спэцыялістаў, экспэртаў у пытаньнях энэргетыкі й эканомікі, з матэрыялаў выступаў якіх будзе складзены зборнік дакладаў, які мы плянуем выдаць у бліжэйшы час.*"

## Што чакае Воршу?

Ворша – горад, у якім знаходзіцца шмат прадпрыемстваў былога саюзнага падпарадкаваньня. Гэта вялікія заводы, што працуюць у галіне цяжкой прамысловасьці, – машынабудаўнічы завод, інструмэнтальны завод, станкабудаўнічы завод "Чырвоны барацьбіт", трактарна-рамонтны завод. У горадзе спадарожніку Барані знаходзіцца буйны радыё-электронны завод, які зараз выпускае тэлефонныя апараты й таксафоны. На ўсіх гэтых прадпрыемствах працуюць тысячы людзей. З улікам таго, што ў горадзе вельмі вялікая доля прамысловага сэктару, на які працуе большасьць жыхароў Воршы й Барані, нядзіўна, што людзі чакаюць значнага пагаршэньне эканамічнага становішча ў гэтым рэгіёне пасьля павелічэньня коштаў на газ. Асноўная прычына такіх прагнозаў – неканкурэнтназдольнасьць прадукцыі, што выпускаецца. А пры павелічэньні коштаў на газ давядзецца павышаць і сабекошт усіх тавараў, што пацягне за сабой крызыс.

Сытуацыю камэнтуе сябра Сойму Партыі БНФ Аляксандр Шутаў: "*Орша знаходзіцца на апошнім месцы па ўзроўні заробтнай платы па Віцебскай вобласьці. Маем вельмі вялікія запазычанасьці насельніцтва за камунальныя паслугі, кошты на якія працягваюць расьці, што сьведчыць пра тое, што ў мясцовым бюджэце не хапае сродкаў. Наогул, прагнозы вельмі нэгатыўныя. Большасьць людзей працуе на прадпрыемтвах, што выпускаюць неканкурэнтназдольную прадукцыю. Вельмі складана даводзіцца тым, хто атрымлівае невялікі заробак або пэнсію.*"

## На «Паліміры» баяцца зімы...

На шматлікіх буйных прадпрыемствах Беларусі ўжо зараз кіраўніцтва пачынае рыхтавацца да магчымага павышэньня коштаў на расейскі газ і крызысу, які пацягне за сабой [illegible]ная сытуацыя. На наваполацкім "Паліміры", як паведамляе сябра Партыі БНФ Уладзімір Куцэвіч, кіраўніцтва працуе на апераджэньне крызісу. Распрацаваная стратэгічная праграма зьніжэньня сабекошту шляхам скарачэньня штату прадпрыемства й памяншэньня заробкаў. На думку Уладзіміра Куцэвіча, праграма абсалютна неэфэктыўная, бо на прадпрыемстве застаецца старое абсталяваньне, працягваюць працаваць па старых тэхналёгіях. Людзі, што працуюць на "Паліміры" чакаюць наступную зіму са страхам, бо прадукцыя ўжо ёсьць неканкурэнтназдольнай й надалей ня будзе раскупацца на расейскім рынку

# Моладзь БНФ: наперадзе новыя перамогі

## Устаноўчы зьезд Моладзі БНФ прызначаны на 17 верасьня 2006 г.

Выбарчая кампанія скончылася. Пачаўся новы этап барацьбы. Этап штодзённай, карпатлівай, адказнай працы. За час выбарчай кампаніі колькасны й якасны склад моладзі БНФ павысіўся ў разы. Наш шмат. Усе новыя сябры моладзі БНФ зьяўляюцца лідэрамі, бо перш за ўсё яны перадолелі ў сабе страх перад рэжымам і паставілі для сябе інтарэсы краіны вышэй за ўласныя інтарэсы, і я вельмі ўсьцешаны тым, што дух Свабоды не ўдалося зламіць. Наперадзе – устаноўчы зьезд моладзі БНФ, вялікая прэзэнтацыя вынікаў працы, што была праробленая з лістападу 2005 году. Сход патрэбны для структурызацыі дзейнасьці моладзевых лідэраў, для зацьвярджэння далейшых плянаў дзейнасьці маладых актывістаў дэмакратычнага руху. Нашыя актывісты – навучэнцы каледжаў і ўнівэрсытэтаў – людзі, каторыя ў недалёкай будучыні будуць складаць эліту беларускага грамадзтва, й гэта асабліва радуе, бо ўжо зараз фронтаўская моладзь перапоўненая ідэямі й прагне найхутчэйшай іх рэалізацыі, дзейнічае ўжо зараз. Актыўна ідзе праца міжнароднага аддзелу. За год яго дзейнасьці мы ня толькі ўмацавалі нашыя міжнародныя адносіны са сталымі партнэрамі, але й знайшлі новых там, дзе раней не ўдавалася гэтага зрабіць. Актыўна ідзе праца праваабарончага аддзелу, ў межах якога яго сябры зараз праводзяць маніторынг выкананьня Беларусьсю міжнародных прававых актаў, што яна ратыфікавала. Дзейнасьць выдавецкага аддзелу перайшла на новы, больш якасны узровень і ад простага выданьня агульна-рэспубліканскай газэткі, перайшла да стварэньня унівэрсытэцкіх выданьняў газэты моладзі БНФ. У межах спартовага аддзелу сфармаваная футбольная каманда моладзі БНФ, адзінае, што турбуе, – гэта пытанне "з кім гуляць?" Але, думаю, супернікі знойдуцца.



Лідэры не ўзьнікаюць самі па сабе. Да нейкага часу лідэр "хаваецца" ўнутры чалавека, і жыцьцёвыя абставіны дапамагаюць яму праявіцца ў бальшыні выпадкаў у той момант, калі чалавек вымушаны (дзякуючы жыцьцёвым выпрабаваньням) браць на сябе адказнасьць. Адказнасьць за сябе, за сваіх блізкіх, за сваіх сяброў, за тых, хто давярае яму. А для таго, каб стаць сапраўдным лідэрам, недастаткова займацца самаадукацыяй – трэба быць адукаваным чалавекам у тых сфэрах жыцьця, да каторых "душа ляжыць". Станавіцца Прафэсіяналам. Навучальны аддзел моладзі БНФ ужо арганізаваў групу моладзі на журналісцкае навучанне ў Польшчы, спалучанае са стажаваньнем у найбуйнешых інфармацыйных выданьнях, адным з каторых зьяўляецца польскі штотыднёвік "Gazeta Wyborcza". Моладзь, якая хоча атрымаць веды ў галіне правоў чалавека, бліжэйшым часам скіруецца ў праваабарончую летнюю школу ва Ўкраіну.

Дзейнічаем! Не спыняемся ў барацьбе! Жыве Беларусь!

**Алесь КАЛІТА,**
каардынатар

# Сэмінар для маладых журналістаў у Варшаве

Напрыканцы чэрвеня ў Варшаве адбыўся сэмінар для журналістаў моладзі БНФ. Дванаццаць удзельнікаў трэнінгу атрымалі асноўныя падмуркавыя веды ў сучаснай выдавецкай справе, якія дапамогуць стварыць незалежны часопіс ці газэту.

Міхал Кацэвіч – журналіст польскага выданьня "Newsweek", праводзіў практычныя заняткі. Ён апісаў агульную сытуацыю на рынку прэсы ў Польшчы, расказаў пра мэтады працы вядучых газэтаў, а таксама раскрыў некаторыя сакрэты журналісцкага майстэрства.

Сябры моладзі БНФ наведалі рэдакцыі найбуйнейшых польскіх выданьняў "Gazeta Wyborcza", й "Rzec Pospolita". Візыт у "Gazeta Wyborcza" нагадаў гісторыю стварэньня гэтага выданьня, якое ў 80-х гг. пачалося са стварэньня супольнай антысавецкай улёткі й пасьля пераўтварылася ў самую папулярную газэту ў Польшчы.

Увогуле паездка вельмі плённая. Сябры моладзі БНФ захапіліся ідэяй стварэньня сваёй уласнай штодзённай газэты. І досьвед, набыты імі пад час сэмінару, спатрэбіцца ў дасягненьні будучых мэтаў.

**Кірыл МЯЛЕШКА**
**Віталь ШЧУЦКІ**






# «Свабода і незалежнасьць – нашыя абсалютныя каштоўнасьці»

## Лідэр Партыі БНФ адказаў на пытаньні слухачоў «Радыё свабода»

**– Якое Вы маеце стаўленьне да Расеі? Ці разглядаеце вы РФ як дзяржаву зь імпэрскімі памкненьнямі? Якое ў вас стаўленьне да Польшчы? Якія тры сьвяты вы лічыце найгалоўнейшымі для беларусаў?**

– Расея ня можа пераадолець згаданы вамі комплекс і пасьля чарговых спробаў эўрапеізаваць сваю палітыку раз за разам апынаецца там, дзе ўжо была. Вось і вядомую энэргетычную залежнасьць суседніх краінаў ад яе Расея выкарыстоўвае для забесьпячэньня геапалітычнага кантролю. Польшча – наш сусед, дэмакратычная краіна, якая адыгрывае вялікую ролю ў рэгіёне й у Эўрапейскім Зьвязе. Ініцыятывы Польшчы наконт Беларусі пазытыўныя. Напрыклад, Польшча прыняла рашэньне аднавіць сваімі сродкамі Радыё Рацыя. Сьвяты? Для мяне – Дзень незалежнасьці 25 Сакавіка, Каляды, Купальле.

**– Як Вы ставіцеся да этнічных габрэяў, якія лічаць сябе беларусамі, размаўляюць на беларускай мове і г. д. Ці лічыце Вы іх беларусамі. Ці ёсьць такія ў БНФ?**

– Як да беларусаў. Мы не вызнаем этнічнага падыходу да чалавека. Я лічу правільным, што ў нас няма пашпартнай графы «Нацыянальнасьць». Няма яе й у партыйных анкетах.

**– Па-першае, як дэмакратычныя сілы хочуць прыцягнуць на свой бок беларусаў, якія застаюцца «нэўтральнымі» да палітыкі, бо ня хочуць страціць працы, напрыклад. Па-другое, ці маеце Вы пляны рэструктарызацыі беларускай гаспадаркі (калі будзеце пры ўладзе) пасьля яшчэ большага заняпаду, які непазьбежны з прычыны энэргетычнага крызысу?**

– Мы прыцягнулі цягам зімы-вясны каля 30%. Бальшыня зь іх сягнула роўню актыўнасьці, дастатковага, каб прагаласаваць за альтэрнатыву, але недастатковага, каб дзейсна выступіць у абарону сваіх поглядаў. Трэба, каб за плячыма была хай маўклівая, але бальшыня. Трэба зьвяртацца да тых, хто вагаецца, і гаварыць пра іхныя праблемы, тлумачыць, што краіна (і іхнае прадпрыемства ці ўстанова) ужо ў крызысе, а праз паўгоду крызыс будзе татальным. Выйсьце – у раскрыцьці Беларусі на сьвет, на новыя тэхналёгіі, інвэстыцыі, рынкі. Але для гэтага трэ' свабодныя датэрміновыя выбары. Рэформы, схема якіх ёсьць і ў БНФ, і ў кааліцыі, магчымыя толькі ў свабоднай краіне.

**– Для чего было потрачено время на так называемый Конресс демсил? Ваша коалиция крайне правых националистов-радикалов (БНФ – это просто пугало для электората средних лет и старшего поколения) и левых (коммунисты – пугало для молодежи) это утопия. Или Вы отбрасываете эту часть электората?**

– Кааліцыя ўсіх нармальных сілаў. Мы – правацэнтрысцкая партыя, а не крайнія радыкалы, мы ўваходзім назіральнікамі ў Эўрапейскую народную партыю, якая мае найбуйнейшую фракцыю ў Эўрапарлямэнце. У кааліцыі – лібэралы, сацыял-дэмакраты некалькіх кірункаў (у тым ліку лейбарысты, калі карыстацца эўрапейскімі аналёгіямі), рэфармісцкія камуністы ПКБ і іншыя. Разам, і маючы пэрсанальную альтэрнатыву цяперашняму ўладару – Мілінкевіча, мы здольныя дайсьці дав вельмі многіх групаў і пластоў грамадзтва.

**– А калі будзе бліжэйшая акцыя праптэсту? Можа быць, ёсьць сэнс дэмакратычным сілам правесьці акцыю супраць перасьледу Маладога Фронту?**

– Масавымі акцыямі нельга злоўжываць, у сэнсе – дэвальваваць іх. Маларікая акцыя можа прывесьці да адваротнага эфэкту, таму трэба старанна рыхтаваць паважныя вычыны. Выказваю (як і ўся кааліцыя)захапленьне мужнасьцю галадоўнікаў, нешта раблю для таго, каб сьвет моцна выказаўся ў іх падтрымку. І мяркую, што найлепшай справай для тых, хто цяпер у вязьніцы, пад крымінальным перасьледам, будзе набліжэньне канца рэжыму ў цэлым.

# Інтэрнэт-экспансія

**У межах кампаніі "За свабоду" Аб'яднаныя дэмакратычныя сілы прэзэнтуюць сайт, а Партыя БНФ – новую партыйную бачыну**

Інтэрнэт падчас выбарчай кампаніі 2006, падзеяў Плошчы 19-23 сакавіка й акцыі 25 сакавіка, акрамя апэратыўнага інфармаваньня, выконваў ролю шырокага дыскусійнага поля як для актыўных удзельнікаў кампаніі, так і людзей апалітычных. Дзякуючы найноўшым тэхнічным распрацоўкам, зьявілася магчымасць абыходзіць усялякае блякаваньне сайтаў (альтэрнатыўныя DNS, т.зв. ананімайзэры), чытаць навіны непасрэдна з мабільнага тэлефону ці партатыўнага кампутара (WAP), зь месца падзеяў загружаць у сеціва здымкі (так, напрыклад, у 6 раніцы 24 сакавіка на сайт Мілінкевіча прыйшоў MMS са здымкам, на якім каля двухсот юнакоў, заклаўшы рукі за галовы, стаялі ля сьценкі спэцпрыёмніка-разьмеркавальніка па вуліцы Акрэсьціна). Інфармацыйныя тэхналёгіі разьвіваюцца, і ў нашым змаганьні важна імі эфэктыўна карыстацца. У прыватнасьці, праз стварэньне дыхтоўных інтэрнэт-рэсурсаў.

У часе выбарчай кампаніі цэлая група сайтаў запаўняла прастору свабоднай незалежнай інфармацыяй (інфармацыйныя elections.belapan.com, svaboda.org, charter97.org; аналітычныя naviny.by, nmnby.org; дыскусійныя дошкі livejournal.com, forums.tut.by; партыйныя ucpb.org, pbnf.org; штабны milinkevich.org).

## milinkevich.org

Сайт milinkevich.org адначасова выконваў шэраг функцыяў, у тым ліку інфармацыйную, прэзэнтацыйную, функцыі зваротнай сувязі й збору інфармацыі. Акрамя гэтага сайтавая група зьбірала й разьмяшчала для спампаваньня разнастайны палітычны матэрыял, сымболіку й атрыбутыку, аўдыё-, відэазапісы акцыяў, выступаў і інш. Аб'яўленая інтэрнэт-кампанія "Музыкі за свабоду" аб'яднала каля 25 разнастайных музычных гуртоў і праектаў. Калісьці вядомы ў Беларусі, а сёньня ў ЗША й Расеі гурт "Краскі" адным зь першых далучыўся да кампаніі, і з уласнай вэбстаронкі заклікаў падтрымаць Мілінкевіча і, калі трэба, бараніць свой выбар на Плошчы. Каля 300 сайтаў разьмясьцілі спасылку на milinkevich.org, больш за 2000 чалавек запоўнілі на сайце анкету на далучэньне да кампаніі, каля 400 пытаньняў, зададзеных праз сеціва, атрымалі адказ (адказы ня проста публікаваліся, але й рассылаліся на пошту тым хто іх задаў). За 4 месяцы перадвыбарчай кампаніі сайт наведвалі каля 300000 разоў.

Milinkevich.org на будучыню можа быць узорам эфэктыўнай супрацы паміж валянтэрамі й прафэсіяналамі.

Сёньня асобныя суб'екты дэмакратычнай кааліцыі цягнуць на сябе коўдру (у тым ліку і ў сеціве), і перад Партыяй БНФ паўстаюць дзьве задачы: 1) умацаваць свае пазыцыі праз мадэрнізацыю уласнай старонкі pbnf.org; 2) неадкладна забясьпечыць інфармацыйную прысутнасьць распачатай Аб'яднанымі дэмакратычнымі сіламі кампаніі "За свабоду".

## Pbnf.org

Сайт pbnf.org быў створаны ў 2000 годзе, і дызайн з таго часу фактычна не зьмяняўся. У 2003 годзе адбылося напаўненьне зьместу сайту, зьявіліся асобныя разьдзелы "рэгіянальныя стрктуры", "Сойм", "Управа", "сымболіка", "гісторыя", "нашыя дэпутаты ў мясцовых саветах", старонка парляманцкай кампаніі Вінцука Вячоркі. Хоць і штодня на бачыне зьяўляюцца сьвежыя навіны, а таксама дайджэст беларускай і замежнай прэсы, касмэтычная неахайнасьць і тэхнічная недасканаласьць ніяк не даюць уражаньне сайту агульнанацыянальнай палітычнай сілы, якой зьяўляецца Партыя БНФ.

Пачалася праца па перапрацоўцы сайту. Ужо зроблены рэдызайн, ужытая адпаведна новая сымболіка партыі. Сыстэматызаваная структура бачыны, перазапоўненыя разьдзелы, у тым ліку інфармацыя пра гісторыю, сымболіку, кіраўніцтва Фронту, сябраў Сойму. Любая рэгіянальная структура партыі будзе мець свой адрас кшталту klecak@pbnf.org і ўласную старонку на сайце, якую зможа аўтаномна мадэраваць. На сайце будзе пашыраны архіў з магчымасьцю спампаваньня дакумэнтаў, прадукцыі, мультымэдыйных матэрыялаў, якія тычацца Фронту ў прыватнасьці, ці акцыяў, у якіх Фронт браў удзел. Сайт будзе зьмяшчаць асобныя старонкі моладзі БНФ, дружыны БНФ, партыйных камісіяў, актуальных праектаў.

Праграмны разьдзел адлюструе партыйнае бачаньне разьвіцьця тых ці іншых кірункаў, напрыклад, "БНФ – камунальнай гаспадарцы", "БНФ – адукацыі й культуры", "БНФ – бізнэсу". Кожны кірунак распрацаваны фронтаўскімі экспэртамі ў адпаведных галінах.

За інфармацыйную частку бачыны будзе адказваць прэсгрупа партыі БНФ. Акрамя штодзённага папаўненьня навінаў, зьявіцца стужка фронтаўскай і каляфронтаўскай аналітыкі, дайджэст замежнай і беларускай прэсы.

## svaboda.info

У блізкай пэрспэктыве – стварэньне сайту палітычнай кампаніі "За свабоду" (svaboda.info), які мусіць пераняць функцыі сайту milinkevich.org і стаць адзіным інфармацыйным парталам Аб'яднаных дэмакратычных сілаў.

Штодзённае абнаўленьне навінаў паводле рубрыкаў "Палітыка", "Культура", "Спорт", "Стратэгія"," Унутры руху", "За мяжой", "Акцыі", "Рэгіёны". Акрамя гэтага асобныя дынамічныя стужкі: аналітыка – спасылкі на 2-3 актуальныя аналітычныя працы; агляд – беларускія й замежныя мэдыі пра кампанію, пра Беларусь; анонс – бліжэйшыя акцыі, мерапрыемствы, флэшмобы, канцэрты; блог – дзёньнікі-нататкі лідэраў дэмакратычнага руху Аляксандра Мілінкевіча, Вінцука Вячоркі й інш – невялікія актуальныя думкі-разважаньні палітыкаў з мэтай пэрсаніфікаваць кампанію перад наведнікам сайту. Многія іншыя разьдзелы, якія прыцягнуць шырокага чытача. Задачу унутранай камунікацыі паміж актывістамі кампаніі будзе выконваць "Форум – для актывістаў кампаніі". Доступ да яго будзе ажыцьцяўляцца толькі па запрашэньнях.

Дэпутаты Дзяржаўнай Думы «па прапанове дэпутатаў ад Цьвярской вобласьці» прагаласавалі ў першым чытаньні за адмену графы «супраць ўсіх» у выбарчых бюлетэнях. Гэта тычыцца выбараў усіх узроўняў. Цяпер гэта дазволіць галасаваць альбо за правільнага кандыдата, альбо не галасаваць увогуле. Пакуль не забаронена й гэта. Старшыня камітэту Дзярждумы па канстытуцыйным заканадаўстве Уладзімір Плігін упэўнены, што адмена гэтай графы «дапаможа падвысіць канструктыўнасьць выбарчага працэсу й грамадзянскую сьвядомасьць выбарнікаў». І мы зь ім пагодзімся. Вядома, падвысіць. Згодна з вынікамі апошніх сацыялягічных апытаньняў розных цэнтраў, лідэрам у грамадзкіх сымпатыях грамадзянаў Расеі зьяўляецца як раз кандыдат па прозьвішчы «Супраць Усіх» (18 %). І на другім месцы з у тры



# Кронікі з Усходу

## На шляху да «вырабаў»... Тронны сьпіч Мядзьведзева... Туга адваката Шмідта... Чатыры сэрыялы й праграма «Время».

разы меншымі электаральнымі лічбамі ідзе адна з галоваў двухгаловай крамлёўскай крэатуры пераемнікаў – Дзьмітры Мядзьведзеў.

І гэта яшчэ ня ўсё. Днямі група дэпутатаў з фракцыяў "Адзіная Расея", "Радзіма" й ЛДПР вынесла на разгляд ніжняй палаты парлямэнту чарговы пакет паправак у выбарчае заканадаўства, дзе прапануецца не дапускаць да выбараў кандыдатаў і партыі, што дазволілі сабе "экстрэмісцкія выказваньні", а таксама аднавіць датэрміновае галасаваньне. Так што цяпер на выбарах ня будзе праблем ані зь яўкай (мы ведаем, што пры пільнай патрэбе датэрміновае галасаваньне можа скласьці й 40%), ані з кандыдатамі. Няправільных проста не дапусьцяць да выбараў, а за правільных прагаласуюць у кожным разе, бо нават супраць усіх будзе прагаласаваць немагчыма. А ўжо пра магчымасьці фальшаваньня вынікаў пад час датэрміновага галасаваньня хіба ўжо амаль нікому ў нашай краіне распавядаць няма патрэбы, ці ня так? У зьвязку з усім гэтым прыгадаем, што некалькі гадоў таму некаторыя сябры кіраўніцтва АГП адстойвалі канцэпцыю "Разам з Расеяй – у Эўропу". У якую Эўропу, спадары лібэралы?!

Тымчасам сам Дзьмітры Мядзьведзеў упершыню выступіў з праграмным словам да суайчыньнікаў. Гэта адбылося на паседжаньні эканамічнага форуму ў Пецярбурзе. Па сутнасьці, яго выступ стаўся дэклярацыяй развіцьця дзяржаўнага капіталізму ў Расеі. Па сутнасьці, прамова віцэпрэм'ера выглядала як прэзэнтацыя вялікага бізнэс-пляну, што сьведчыць пра тое, што да краіны ён ставіцца як да вялікай карпарацыі (анічога не нагадвае?).

Паводле выступоўцы, «Расея будзе рабіць стаўку на дзяржаўную падтрымку стварэньня буйных дзяржаўных карпарацыяў і іхную экспансію на зьнешнія рынкі». Што гэта за рынкі? Цытуем будучага расейскага прэзыдэнта: «Найбольш прыязна ставяцца да Расеі на Блізкім Усходзе. Адносіны з гэтым рэгіёнам у Расеі проста бліскучыя, у адрозьненьне ад нестабільных Злучаных Штатаў і Эўропы, эканоміка якой не расьце. Адпаведна, няма чаго Расеі замыкацца ў сваёй эўрапейскай ідэнтычнасьці, яна павінна разьвівацца ва ўсе бакі». Чыстая эўраазыятчына.

Працягваюцца вельмі падобныя на беларускія прыгоды з палітычнымі вязьнямі. Маскоўскі гарадзкі суд прызнаў этапаваньне экс-кіраўніка ЮКОС у Чыцінскую вобласьць законным. Адвакат Юры Шмідт быў разьюшаны: "За пэрыяд ад этапаваньня Хадаркоўскага ў бліжэйшых да сталіцы калёніях было 149 тысячаў вакантных месцаў (нагадаем, Хадаркоўскі быў этапаваны 1 кастрычніка мінулага году). Адпаведна, у краіне для Хадаркоўскага не знайшлося для адбываньня пакараньня месца бліжэйшага, чымсьці за 7 тысячаў кілямэтраў ад Масквы. «Гора той краіне, дзе няма незалежнага суду. Гісторыя ўсё паставіць на свае месцы», – тужыць спадар Шмідт. І яго туга нам зразумелая. Нагадаем, што Міхаіла Хадаркоўскага ўжо на апошнім месяцы адсідкі тры разы накіроўвалі ў штрафны ізалятар. Першая прычына – за тое, што захоўваў і вывучаў загады ды інструкцыі Мін'юсту (юрыст калёніі палічыў, што наяўнасьць у Хадаркоўскага гэтых папер «магла прывесьці да непрадказальных наступстваў для супрацоўнікаў і іншых вязьняў (!), а таксама нясе шкоду іх жыцьцю й здароўю»). І другая – за тое, што пасьля сустрэчы з жонкаю ён прынёс у атрад торбу з харчамі. Відавочна, усе гэтыя штрафы выдумляюцца адмыслова для таго, каб не дапусьціць ўмоўна-датэрміновага вызваленьня.

Зараз на ўсіх узроўнях расейскай ўлады шмат размоў вядзецца пра ўласны шлях, уласную культуру й глыбінную непаўторнасьць усправядцца ўсіх падзеяў і зьяваў расейскімі грамадзянамі. У якасьці прыкладу прывядзем вынікі маніторынгу самых улюбёных тэлевізійных перадачаў сярод расейскай тэлевізійнай аўдыторыі. Падкрэсьлім, прыярытэты агульнарасейскага й маскоўскага апытаньняў, як ні дзіўна, супалі. Дык вось, у шэрагу гэтых самых улюбёных перадач – чатыры сэрыялы, праграма "Время", "Крывое люстра" Яўгена Петрасяна, мільянэры Максіма Галкіна й два дакумэнтальныя фільмы – пра мерцьвякоў і "Скандалы шоўбізнэсу". Такая вось глыбінная культура.

**Зьміцер ДРЫГАЙЛА,**
**Масква**

## Таварыш Пуцін запрашае...

Нагадаем, 9 траўня прэзыдэнт Расеі выдаў распараджэньне пра спыненьне датацыяў эканомікі Беларусі ва ўсіх яе формах і загадаў перагледзець усе двухбаковыя дамовы. Разьлік Уладзіміра Пуціна скіраваны на тое, што ў Аляксандра Лукашэнкі не застанецца выйсьця з сыстэмнага эканамічнага крызысу, і ён сам папросіцца ў Расею. Масква рыхтуецца да шырокамаштабнага націску на Менск, на газавым, нафтавым, электрычным, хімічным (калійным), мэталапракатным, харчовым і іншых накірунках. Вынікам яго мусіць стаць стварэньне адзінай дзяржавы на ўмовах Масквы. Пра гэта неяк спакваля загаварылі прадстаўнікі расейскага буйнога чынавенства – ад Дзяржцумы (Уладзімір Жырыноўскі) да Лічыльнай палаты (Сяргей Сьцяпашын). Адпаведна, і ўсе цэнтральныя расейскія СМІ апошнімі днямі разгарнулі цэлую піяр-кампанію на тэму спыненьня фінансавых і іншых ўліваньняў у беларускую эканоміку.

Гэта, відавочна, частка вялікай маскоўскай стратэгіі. Што гэта за стратэгія? Дзеля гэтага ўзгадайма таксама, што расейскі МЗС днямі упершыню афіцыйна й адкрыта абвесьціў, што непрызнаныя рэспублікі на постсавецкай прасторы маюць права на самавызначэньне. Як гэта суадносіцца з нашымі энэргетычнымі праблемамі? Падаецца, што наўпрост. Расея прагне татальнага кантролю за "сваімі" тэрыторыямі, а ў ідэале – тэрытарыяльнага прыросту.

Усё гэта робіцца непасрэдна перад самітам Вялікай восемкі ў Пецярбурзе, што сьведчыць пра намер Расеі абвесьціць усяму сьвету пра свае эксклюзыўныя правы на постсавецкую прастору. Каб яе было чуваць ня толькі ў Тбілісі й Кішынёве, але таксама ў Бэрліне, Лёндане й Вашынгтоне. У сытуацыі зь Беларусьсю Расея фактычна адпрацоўвае "іншы падвід" той самай тактыкі – эканамічны шантаж дзеля палітычнага паглынаньня.

## Сідорскі піша Фрадкову

Як жа бачыць гэтыя праблемы беларускі бок (маецца на ўвазе дзяржава). Два тыдні таму прэм'ер-міністар Беларусі Сяргей Сідорскі напісаў свайму расейскаму калегу Міхаілу Фрадкову ліст, дзе падкрэсьліў між іншым, што пераход да заходнеэўрапейскіх коштаў на газ супярэчыць дамове пра стварэньне саюзнай дзяржавы й прывядзе да разбурэньня саміх яе падмуркаў. Такім чынам, упершыню Беларусь сама загаварыла пра магчымасьць выхаду краіны з Саюзу Беларусі й Расеі.



# Газаабразная пятля

*Юры Гембіцкі*

**"Газпрам" прапанаваў Беларусі набываць газ па 200 даляраў за тысячу кубамэтраў. Гэта прамое наступства правала намаганьняў расейскага кіраўніцтва ўсталяваць кантроль над газаразьмеркавальнымі актывамі ў нашай краіне.**

Часткова рост цэнаў "Газпрам" абяцае кампэнсаваць за кошт атрыманьня ва ўласнасьць магістральных газаправодаў "Белтрансгазу" па камэрцыйных коштах. Прычым, абсалютна незразумела, што гэта за кошты: Расея настойвае, што гэта 1 мільярд даляраў. Беларусь словамі А.Лукашэнкі не ўступіць у дагаворныя адносіны менш чым за 5 млрд. Гэта старая песьня, якой ад нараджэньня ўжо больш сямі гадоў, а колькі дагэтуль вынашвалася плянаў! Дарэчы, апроч Беларусі таксама адмовіліся прадаць Расеі свае газатранспартныя актывы й Украіна, Малдова, Літва, то бок фактычна ўсе газатранспартныя транзытэры на заходнім кірунку. Пра Польшчу й гаворкі нават не вядзецца.

Такім чынам, Беларусь словамі свайго віцэ-прэм'ера Уладзіміра Сямашкі пляную атрымаць у 2007 годзе 21 мільярд кубоў па цане 51,8 даляраў за 1000 кубоў, то бок усяго на 15 % даражэй, чым сёлета. Іншымі словамі, Менск робіць выгляд, што нічога не здарылася, прапаноўваючы нейкія супольныя праекты, якія ў лепшым выпадку толькі ўскосна зьвязаныя нават не з газаправодамі, а проста з газам. Расея гэтыя праекты ўспрымае як зьдзек, тымчасам пэрыядычна закідваючы "ульку"пра сярэднеэўрапейскія кошты на газ, якія, дарэчы, нагадаем, складаюць каля 250 даляраў. Такую цану, прыкладам, плаціць Італія. Нямеччына плаціць 220. Тымчасам "кругом вінаватая" Малдова, якая ў мінулым годзе плаціла "Газпраму" 80 даляраў за тысячу кубоў, у першым паўгодзьдзі бягучага – ужо па 110, а зь ліпеня будзе 160 (самая высокая цана ў СНД з улікам "украінскай элегантнай дванаццаціхадоўкі"). Дарэчы, для Ўкраіны кошты на газ таксама "будуць падвышаныя" – гэта на афіцыйнай мове, насамрэч жа пакуль складана разабрацца, ці спрацуе налета сёлетняя схема, згодна зь якой падгазпрамаўская ж "Росукрэнэрга" набывае газ па 230, а прадае – па 95 даляраў.

Для самой Расеі нізкія кошты на энэрганосьбіты могуць стаць вялікай праблемай, бо Эўракамісія прапанавала СГА лічыць унутраныя цэны на энэрганосьбіты для расейскіх вытворцаў гэтак званай "забароненай субсыдыяй". І настойваць на іх павелічэньні пад пагрозай недалучэньня Расеі да Сусьветнай гандлёвай арганізацыі. У гэтым годзе для расейскіх кампаніяў газ каштуе $43,12 за 1000 куб. м, насамрэч, з сярэднеэўрапейскім коштам у $250 не параўнаць.

## Адказу няма

У кожным разе, у Беларусі, здаецца, становіча вырашанае пытаньне пра будаўніцтва АЭС ў Магілеўскай вобласьці. Яе энэргетычная магутнасьць складзе 2 тысячы мэгават (каля 30 % патрэбнай Беларусі электраэнэргіі). Праўда, трэба дадаць, што мінімальны інвэстыцыйны кошт праекта складзе каля 3 мільярдаў даляраў, а пачатак працы АЭС акрэсьлены недзе паміж 2015 і 2020 годам. А што рабіць з 1 студзеня? Пакуль адказу паранейшаму няма. І гэта не адзіная праблема Аляксандра Лукашэнкі й ўсёй карпаратыўнай беларускай эканомікі. Больш за ўсё Расея губляе на гэтак званай "схаванай" форме рээкспарту праз экспарт нафтапрадуктаў у Беларусі. Беларускія "Нафтан" і Мазырскі НПЗ не сплачваюць экспартных мытаў пры пастаўках нафты (у адрозьненьне ад расейскіх заводаў), а нафтапрадукты прадаюцца па эўрапейскіх коштах (нагадаем, другая краіна пасьля Расеі па аб'ёму беларускага экспарту – Галяндыя, якая набывае менавіта беларускія нафтапрадукты). Атрымліваецца, што губляе расейскі бюджэт, а беларускі, наадварот, напаўняецца. Расейскае кіраўніцтва зьбіраецца спыніць гэты трэнд. Якія адказы будуць на ўсе гэтыя выклікі? Адно вядома дакладна: якімі б гэтыя адказы не былі, яны будуць не эканамічныя, а палітычныя.

**Фелікс Шкірманкоў** – чалавек надзвычай багатага на падзеі лёсу, які прайшоў у жыцьці шмат жорсткіх выпрабаваньняў, але застаўся мудрым, душэўным, спагадлівым у стасунках зь людзьмі й высакародным у сваіх памкненьнях.

Пятнаццацігадовым падлеткам Фелікс Шкірманкоў стаў у шэрагі абаронцаў Айчыны, сталеў і мужнеў на пуцявінах крывавай вайны, у баях з фашысцкімі захопнікамі. Пасьля доўгі час працаваў геолягам на Далёкім Усходзе, шмат пабачыў, перажыў і зрабіў карыснага для грамадзтва. Яго вяртаньне ў Беларусь супала з бурлівымі падзеямі распаду СССР і доўгачаканага, але такога нялёгкага, драматычнага ўтварэньня й станаўленьня незалежных нацыянальных дзяржаваў. Землякі абралі Фелікса Шкірманкова старшынём Слаўгарадзкага гарадзкога савету народных дэпутатаў. На гэтай пасадзе ён засьведчыў сваю годнасьць грамадзяніна й патрыёта Беларусі, выявіў арганізатарскі талент і высокія чалавечыя якасьці. Такім жа няўрымсьлівым, актыўным, неабыякавым да ўсяго, што адбываецца на яго малой радзіме й у краіне Фелікс Шкірманкоў застаецца й зараз – на заслужаным адпачынку.

***Вершы мае...***

*Вершы мае – гэта сэрца ўдары,*
*Гэта надзеі і светлыя мары.*
*Вершы мае – гэта родны мой кут,*
*Людзі, што зьведалі пекла пакут.*

*Вершы мае – гэта боль і адчай*
*За Беларусь, за зьнявечаны край.*
*Вершы мае – гэта крык чалавечы*
*І між людзей і нібыта ў пустэчы.*

*Вершы мае – гэта крыж мой да скону,*
*Да пахавальнага ціхага звону.*
*Зь імі ўваскрэсну, душой не памру,*
*Каб толькі ўбачыць – ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!*



# ФЕЛІКСУ ШКІРМАНКОВУ 80 ГАДОЎ

## Вінцук Вячорка: «На такіх людзях трымаецца Беларусь»

Фелікс Уладзіміравіч Шкірманкоў – надзвычайны чалавек. Мудры, адважны, няўрымсьліва творчы. Па-маладому энэргічны й дужы. Жыцьцёвы шлях ягоны немагчыма аддзяліць ад лёсу нашае краіны. Прайшоў усю вайну ад пачатку да перамогі: партызаніў, быў паранены. На шчасьце, вычын ягоны быў годна ацэнены ўзнагародамі. Пасьля – дзесяцігодзьдзі рамантычнае й мужнае працы геолягам далёка ад Бацькаўшчыны. Фелікс Шкірманкоў – творца ад прыроды; відавочна, доля й праца ягоныя спрыялі філязофска-паэтычнаму здумленьню.

Як чалавек адказны й гранічна сумленны, пасьля вяртаньня ў Беларусь спадар Фелікс уступіў у Беларускі Народны Фронт – тую сілу, ідэалы й мэты якой без ваганьня падзяліў тады й бароніць цяпер. Ф.Шкірманкову аказалі безумоўны давер слаўгарадцы, выбраўшы яго кіраўніком мясцовай улады ў кароткі час адноснае дэмакратыі – у пачатку 90-х гадоў. Ён адзін з найбольш паважаных людзей ня толькі на Магілёўшчыне, але ва ўсёй краіне. На лёсавызначальным Кангрэсе дэмакратычных сілаў у кастрычніку 2005 году менавіта Фелікс Уладзіміравіч, як найстарэйшы дэлегат, зьвярнуўся да сабраных з пачатным словам і заклікаў да мудрых рашэньняў дзеля Беларусі.

Дзеля Беларусі – незалежнае, свабоднае, годнае краіны, дзеля беларускае мовы й гістарычнае памяці – і ягоная творчасьць. Сам спадар Фелікс шчыра прызнаецца, што асабістае лірыкі ў ягонай паэзіі няшмат (хаця ёсьць і вельмі кранальныя лірычныя радкі). Паэзія Фелікса Шкірманкова – як покліч звана, які б'е трывогу й кліча да змаганьня за сваё сьвятое, як попел Клааса, што стукае ў сэрцы. Але вершы ягоныя – не сухія лёзунгі. Чытач знойдзе ў іх і жарынку гумару, і сымпатычныя асаблівасьці мясцовага дыялекту. Гэта жывое жыцьцё Беларусі.

**Вінцук Вячорка**

### АЎТАБІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Нарадзіўся 21 траўня 1926 года ў Слаўгарадзе (Прапойску) Магілёўскай вобласьці, беларус. Адукацыя вышэйшая – горны інжынер-геоляг. Удзельнік Айчыннай вайны з 1941 па 9 траўня 1945 году. Узнагароды: ордэн "Чырвонага Сьцягу", два ордэны «Айчынная вайна» 1 ступені, мэдалі «За адвагу» й «Партызану Айчыннай вайны». Чатыры разы паранены. Інвалід вайны II групы. З 1951 па 1979 год працаваў на Калыме, Чукотцы, Ахоцкім узьбярэжжы на пошуках і разьведцы радовішчаў урану й золата. Зь ліпеня 1979 году жыве ў Слаўгарадзе, пэнсіянэр.

Літаратурнай працай займаецца з 1965 году. Апавяданьні друкуюцца ў часопісах «Нёман», «Полымя», штотыднёвіку «ЛіМ». Вершы - у «Народнай Волі», «Нашым слове», «ЛіМ». У 1990 годзе ў выдавецтве «Юнацтва» выйшла кніжка апавяданьняў для дзяцей «Хто пакрыўдзіў мядзьведзя?». У 1995 годзе ў выдавецтве «Беларусь» выйшла дакумэнтальная аповесьць «Выпрабаваньне» пра баявую дзейнасьць партызанскай брыгады імя Л.Даватара. Зьяўляецца сябрам БНФ «Адраджэньне» з 1991 году. Быў дэлегатам усіх зьездаў БНФ, пачынаючы з II-га зьезду. Абіраўся ў склад Рэдакцыйнай камісіі.



НавінЫ БНФ

**Галоўны рэдактар:** Ната Сеніна
**Выпускны рэдактар:** Кастусь Козел

№ 14(92), 8 ліпеня 2006 г., наклад 299 ас.
Распаўсюджваецца бясплатна на правах унутранай дакумэнтацыі

**E-mail:** pbnf@pbnf.org
**Сайт:** http://www.pbnf.org
**Адрас для ліставаньня:** 220005, Менск, вул. Варвашэні 8, Сядзіба БНФ